*Сёння ў Ашхабадзе кіраўнікі дзяржаў СНД разгледзяць шэраг актуальных пытанняў.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 80 (4435)**

11 кастрычніка 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Не нахлебники мы!

Недавно лидер партии «Справедливый мир» Сергей Калякин дал интервью Радио Свобода. Отвечая на вопросы журналиста, он заявил: **«Никто другой, кроме России, Беларусь кормить не будет».** Согласитесь, эти слова не могут не задевать чувства тех белорусов, а их, я думаю, подавляющее большинство, которые и в мыслях не допускают, что они нахлебники. В советские времена Беларусь была республикой-донором и буквально кормила Москву и Ленинград мясом, молоком, картофелем, другим продовольствием. Сегодня наши аграрники и переработчики имеют тесные связи почти со всеми регионами России. И давайте прямо скажем: мы не наживаемся на реализации сельхозпродукции через российские сети, скорее их покупатели в выигрыше от наших поставок, чем непосредственные производители.

Если Калякин подсчитывает так называемый российский интеграционный углеводородный грант, который облегчает жизнь экономике Беларуси, то ему можно ответить аргументами Александра Лукашенко, который не однажды подчеркивал, что Беларусь:

– не берет плату с России за нахождение на ее земле двух важных российских военных объектов – центра управления российскими подводными лодками в северной Атлантике в районе Вилейки и станции предупреждения о ракетном нападении загоризонтального действия в районе Ганцевичей;

– не взимает полноценную плату за транзит по белорусской территории нефти, грузов и пассажиров;

– дает России миллионы рабочих мест на предприятиях, работающих в кооперации с белорусскими производителями;

– поставляет в Россию достаточно дешевые и качественные сельхозтехнику, грузовые автомобили, дорожные машины, карьерные самосвалы и тому подобное.

За аренду космодрома Байконур Россия платит Казахстану ежегодно 115 миллионов долларов, за два российских военных объекта в Беларуси такую аренду можно оценить в 100 миллионов долларов ежегодно, а за все годы их эксплуатации набегают уже миллиарды долларов.

В нынешнем году белорусское правительство рассчитывает получить от транзита в сфере транспорта более 1,5 миллиарда долларов. Из них: 150 миллионов долларов – за транзит нефти, 476 миллионов – за прокачку газа, 879 миллионов – за транспортные услуги. Основу транзитных потоков, проходящих через нашу территорию, составляют внешнеторговые грузы России. **Беларусь вправе повысить транзитные тарифы и по меньшей мере удвоить эти суммы.**

Поставляя в Беларусь нефть и газ, Россия делится с Беларусью природной рентой. Надо отдельно еще посмотреть, какая часть российского углеводородного гранта доставалась простым белорусам. Да и грант-то иссякнет к 2025 году: российские цены на нефть приближаются к мировым. Сегодня для Беларуси цены на нефть, поставляемую Россией на наши НПЗ, достигли 80–85 процентов от мировых.

Помнится, на совещании белорусских экономистов в начале 1990-х годов один из представителей былой партхозноменклатуры утверждал, что Беларусь без России может самостоятельно создать лишь 4 процента своего ВВП. На это профессор Н.Савицкий возразил: так что, я без России в туалет сходить не могу (имея в виду, очевидно, туалетную бумагу, которую мы тогда покупали у них)? Замечу, сегодня у нас своего этого добра хватает.

Сергей Калякин пугает нас, что без помощи России уровень жизни белорусов понизится на 40 процентов. Какая, простите, чушь! Наши соседи, я имею в виду Польшу, Литву, Латвию, Эстонию, уже лет двадцать с лишним как вырвались из объятий России, и что – жизненный уровень их граждан упал на 40 процентов? Наоборот, заметно вырос. Да, народы тех же стран Балтии не смотрели на мир через котлету, а, помните, взялись за руки и выстроили живую цепь на сотни километров, символизируя свою национальную независимость. Мерзли, невзирая на холод зимой, когда Россия повысила цены на газ. Но добились своего! Уже давным-давно и не мерзнут, и не голодают. Более того, и зарплаты, и пенсии выросли в несколько раз.

Возьмем другой пример. Экономика Украины имела не меньшую зависимость от России. Но она показала, что можно развиваться и без донорства имперского соседа. Важно только наладить тесное сотрудничество с другими странами, прежде всего с государствами Евросоюза. Сегодня, по сути, еще воюющая страна показывает хорошую экономическую динамику. Средняя зарплата в Украине уже приближается к 500 долларам.

Утверждения С.Калякина, что Евросоюз прекратил помощь странам бывшего социалистического лагеря, неверны. Они как получали ежегодно миллиарды евро, так и получают. Если мы, белорусы, будем наращивать объемы торговли с Европейским Союзом, то, я уверен, и наша страна станет получать немалые дивиденды.

Не выдерживают критики и высказывания Калякина насчет того, что у наших соседей, скажем, прибалтов уровень жизни не намного превышает тот, который мы, белорусы, имеем. Тогда, Сергей Иванович, как отнестись к тому, что тысячи наших граждан выезжают и трудоустраиваются в той же Литве? А сколько белорусов работает в Польше, Чехии, Словакии! Успешным экономическим развитием эти страны обязаны как рыночным реформам, трудолюбию населения, так и многомиллиардной помощи стран-доноров ЕС.

Нет, я далек от мысли, что нам нужно отвернуться от России и что если пойдем по этому пути, то Беларусь будет облагодетельствована Западом. Мы должны со всеми – и ближними, и дальними – соседями поддерживать дружественные, цивилизованные отношения, строить партнерство на взаимовыгодной основе. И не нищие мы, не чьи-то нахлебники, а имеем всё для того, чтобы нормально развиваться, жить в полном достатке. Понятно, для этого много еще нужно сделать. И сделаем!

Возвращаясь к интервью С.Калякина и вспоминая его коммунистическое прошлое, у меня создалось впечатление, что он совсем не против оказаться в составе Российской Федерации. Но отрадно, что таких людей, как свидетельствуют социологические опросы, очень и очень мало.

Значит, быть Беларуси независимой, суверенной страной. И самодостаточной.

АКЦЫЯ




# «Заклікаем беларусаў падтрымаць родную мову!..»

Як вядома, зараз у Беларусі праходзіць перапіс насельніцтва, які працягнецца да 30 кастрычніка. Сярод усіх іншых пунктаў, на якія трэба адказаць, ёсць і пытанне адносна таго, якую мову вы лічыце роднай (якую першую засвоілі ў раннім дзяцінстве).

Адначасова з перапісам праходзіць і кампанія тэлеканала «Белсат» пад дэвізам «Беларускамоўны». Да ініцыятывы далучыліся Беларускі ПЭН-цэнтр, «Арт Сядзіба», крамы Symbal.by і «ЛСТР», Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» і кампанія «Будзьма беларусамі!». Чаму была распачата гэтая кампанія?

**Аляксей Дзікавіцкі, намеснік дырэктара «Белсата»:**

– Наша мэта – заахвочванне беларусаў да таго, каб яны пазначалі падчас перапісу беларускую мову як родную. Чаму гэта важна? Усе мы ведаем, у якім стане знаходзіцца зараз у Беларусі родная мова. Таму і заклікаем землякоў падтрымаць яе!

Мы выступаем за тое, каб беларуская мова мела такі ж самы статус, як і руская, што, у прынцыпе, зацверджана Канстытуцыяй, але, на жаль, не выконваецца ў штодзённым жыцці. Заклікаем да гэтага ў эфіры і на вуліцах Беларусі, дзе кожны можа падкрэсліць сваю адметнасць з дапамогай брэнда «Беларускамоўны».

**Павел Белавус, дырэктар крамы Symbal.by:**

– Мы дорым людзям торбачкі «Беларускамоўны», але не проста так, а спрабуем іх матываваць. Просім, каб яны ў сваіх сацыяльных сетках расказалі для сваёй аўдыторыі, чаму яны пазначылі ці пазначаць роднай мовай беларускую. І, натуральна, затым аддаём ім падарункі.

**Таццяна Нядбай, старшыня беларускага ПЭН-цэнтра:**

– Мы проста павінны спланаваць нашу дзейнасць так, каб, абапіраючыся на гэтае меркаванне аўтарытэтных арганізацый і людзей пераканаць Google ў тым, каб ён падтрымаў рэкламу на беларускай мове, пераканаць беларускія ўлады ў тым, што важна зрабіць для беларускай мовы спрыяльныя ўмовы для развіцця, для існавання.

**Алесь Снег, дырэктар «Арт Сядзібы»:**

– Для многіх беларуская мова стала роднай не з дзяцінства, не з першых слоў, а ў школьныя, студэнцкія ці дарослыя часы. Таму калі ў нас пытаюцца «Якая ваша родная мова?», то, натуральна, трэба адказваць так: «Наша родная мова – беларуская».

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ОФИЦИАЛЬНО

## Платить за тепло и газ по полной «тунеядцы» будут с 1 мая 2020 года

Ранее, как известно, планировалось, что не занятые в экономике белорусы, имеющие во владении квартиры, будут оплачивать газ и тепло по полному тарифу уже с 1 октября этого года.

Но 7 октября появилось постановление правительства №682 о переносе даты введения оплаты трудоспособными гражданами, не занятыми в экономике, отдельных коммунальных услуг по ценам (тарифам), обеспечивающим полное возмещение экономически обоснованных затрат на их оказание. Введение оплаты услуг теплоснабжения, газоснабжения при наличии индивидуальных газовых отопительных приборов по таким ценам (тарифам) перенесено на 1 мая 2020 года.

**Иван ШИРОКИЙ.**

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

# Каб бацькам не было сумна...

## Падпішыце іх на «Народную Волю»!

Ведаем, большасць з Вас, шаноўныя чытачы, пражывае ў Мінску і іншых гарадах. Вы атрымліваеце «Народную Волю» як праз падпіску, так і набываючы яе ў шапіках.

А вось як быць Вашым бацькам, якія жывуць у аддаленых вёсках? Да паштовых аддзяленняў не адзін кіламетр, а побач няма шапікаў з назвай «Белсаюздрук». З наступленнем восеньскіх халадоў работы ў полі завершаны, можна і перадыхнуць. А наперадзе яшчэ зіма, доўгія вечары...

Добра было б узяць у рукі незалежную «Народную Волю» і пачытаць цікавыя матэрыялы на самыя розныя тэмы, якіх днём з агнём не знойдзеш у дзяржаўных выданнях. Каб у Вашых бацькоў, сваякоў, сяброў, якія жывуць у глыбінцы, была такая магчымасць, зрабіце ім падарунак: па месцы свайго жыхарства выпішыце на іх адрас «Народную Волю». Яны будуць Вам удзячны!

Нагадаем: ёсць магчымасць аформіць падпіску на «Народную Волю», не выходзячы з дому, праз інтэрнэт. Да **20 кастрычніка** ўключна на сайце Belpressa.by трэба запоўніць падпісны бланк і зрабіць аплату праз сістэму Webpay банкаўскай карткай ці праз сістэму «Расчет» (АРІП). У апошнім выпадку неабходна выбраць пункт «Система «Расчет» (ЕРИП)» – «СМИ» – «Н» – «Народная Воля» – «Подписка». Для аплаты ўвядзіце нумар рахунка, атрыманага на сайце Belpressa.by. Зрабіце плацеж.

Можна падпісацца на «Народную Волю» і традыцыйным спосабам – у любым паштовым аддзяленні і ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку». Зрабіце гэта да **27 кастрычніка** ўключна, і ўжо з 1 лістапада газета будзе на стале ў Вашых бацькоў.

***РЭДАКЦЫЯ.***

НОВАЕ ПАКАЛЕННЕ

# Місія Павука

*На Гомельшчыне ёсць аддалены райцэнтр Акцябрскі, колішняя Рудабелка. Легендарны край, цікавыя і самабытныя людзі. Адзін з такіх – блогер і грамадскі актывіст Андрэй Павук. Вядомасць да яго прыйшла найперш праз актыўную жыццёвую пазіцыю. Ён імкнецца ўзвысіць дух землякоў-рудабельцаў, змагаецца з хібамі мясцовага жыцця. Ладзіць крэатыўныя акцыі і перформансы, крытыкуе мясцовых чыноўнікаў. У сацыяльных сетках стварыў папулярную суполку «Рудабельская паказуха», вядзе Youtube-канал з такой жа назвай, на які падпісана каля 12 тысяч чалавек. Зараз Павук судзіцца з міліцыяй, патрабуючы спагнаць 25 тысяч рублёў маральнай шкоды.*



## Хто ён такі

У мінулым верасні Андрэю Павуку споўнілася 37 гадоў. Ён жанаты, з жонкай Вольгай гадуе сына і дачку. Сам Андрэй нарадзіўся ў Нароўлі, адкуль яго з бацькамі сагнала Чарнобыльская катастрофа. Пераехалі ў Акцябрскі.

Лічыць сябе рудабельцам, бо менавіта тут пачалося ягонае свядомае жыццё, тут нарадзіліся яго дзеці. За сваё пакуль непрацяглае жыццё Андрэй шмат чаго рабіў, шмат што выпрабаваў. Атрымаў дзве прафесіі: у Гомельскім політэхнікуме – дызайнера-тэхнолага мэблі, у Белдзяржуніверсітэце – настаўніка біялогіі. А яшчэ маляваў, быў леснікам, акампаніятарам. Выкладаў нават біялогію ў сельскай школе, праўда, рэкордна кароткі час – усяго адзін дзень.

«*Паверце,* – кажа Павук, – *былі ў школе дзеці, якія толкам нічога не ведалі. Я, здаецца, падрыхтаваўся, у інтэрнэце дадатковую інфармацыю знайшоў, а ім – нецікава. Падумаў: я сам хутчэй кепскі настаўнік, чым яны кепскія вучні. Словам, ніводная атрыманая адукацыя мне не прыдалася ў жыцці*».

## Скандальны хіт «Я з вёскі»

Гадоў восем таму Акцябрскі раённы цэнтр творчасці дзяцей і моладзі, дзе Павук працаваў акампаніятарам, мусіў браць удзел у конкурсе БРПА і БРСМ «Я – лідар». Андрэй згадвае, што з яго пасільнай дапамогай цэнтр часцяком заваёўваў прызавыя месцы. Захацелі зноў перамагчы. Кіраўніцтва азадачыла: «Ну прыдумай што!»

«*Я нешта напісаў, прынёс. Сталі абмяркоўваць. Тут не падабаецца, там не пасуе. Давай думаць разам, што ды як. Яны прапаноўваюць, а я рыфмую, мелодыю дапасоўваю. Нічога новага я там не прыдумаў, сабраў толькі тое, чаму школьнікаў вучаць. Так і атрымаўся хітовы відэакліп пад назвай «Я з вёскі»*, – тлумачыць Андрэй.

Прапагандысцкі рэп, напісаны на расійскай мове, выдатна агучыла шасцікласніца Ксенія Дзягелька: «*Долой мини-юбки! Короткое, узкое! Теперь покупать будем всё белорусское!*», «*Достанем из недр наших фосфор и калий, чтобы в достатке работал аграрий!*», «*Скажем спасибо за хлеб на полях и за хорошую жизнь в деревнях!*»...

Пасля размяшчэння кліпа ў сецiве Байнет узарваўся каментарыямі. Пісалі і агучвалі шмат у крытычным плане:

«Па форме кліп яшчэ нічога, а вось па змесце... Не па сабе таго, што дзяцей уцягваюць у такія рэчы».

«Гэта жах на самай справе. Гэта нейкі калгас! Для сучаснай моладзі гэта вельмі смешна. Мне падаецца, што гэта прыкол».

«Не бачу абсалютна нічога патрыятычнага. Нават калі браць патрыётаў, то гэта нейкія кпіны з нас».

«Джордж Оруэл у «Быдлячым двары» і ў «1984» такіх жа абсурдаў нагарадзіў».

«Кліп гэты – як бы меркаванне моладзі. Навязваюць яго нам. А кліп – проста нейкая ганьба».

У Акцябрскі прыязджалі нават супрацоўнікі КДБ – высвятлялі, ці сапраўды відэакліп мае патрыятычны змест. Дзяржаўнае тэлебачанне ў сваю чаргу рыхтавала ўзнёслыя рэпартажы.

Сам Павук так адклікаўся на бурлівую рэакцыю сацыяльных сетак: «*Мне не сорамна за гэты кліп, бо гэта падсумаванне таго, чаму ідэалогія навучыла нас за доўгія гады. Атрымаўся неблагі сцёб*».

Адміністрацыя цэнтра і аддзел адукацыі нервова рэагавалі на нечаканую папулярнасць. Твор баранілі. А вось аўтара хіта ўшчувалі: педагог не можа так паводзіць сябе. Бывала, цягам аднаго дня кідалі супрацьлеглыя загады – то звальняйся, то заставайся. Урэшце Андрэй сам вырашыў: усё, хопіць! І пакінуў у цэнтры творчасці акампаніятарства, а заадно і гурток для дзяцей «Рэпарцёр».

*(Заканчэнне на 3-й стар.)*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Оскорбление по переписи

Начавшаяся 4 октября перепись населения уже успела породить вопросов больше, чем в ней самой содержится. В интернете только и обсуждают, зачем нужно, например, задавать вопрос о планах женщины рожать детей. Не является ли поставленный таким образом вопрос вмешательством в личную жизнь гражданки Беларуси?

Примерно такую же бурю вызвали и вопросы о количестве на приусадебном участке кустов смородины или яблоневых деревьев. Народ, что постарше, вспомнил времена Никиты Хрущева, пытавшегося обложить все домашнее хозяйство – в том числе деревца, кустики и свинопоголовье – отдельным налогом. Мол, не собирается ли очередная госпожа Щеткина (не та, что в Совете Республики, а какая-нибудь новая) пройтись потом по результатам переписи и внести предложение расширить таким образом базу налогообложения. Мол, раз белорусы на приусадебных участках нечто выращивают, то это нужно воспринимать как доход, а коль доход, то, будьте любезны, налог в казну заплатите.

Но главной проблемой оказалось, какой язык будет обозначен для вас в качестве родного. Составители анкеты предусмотрели лишь такой вариант: «Первый язык, усвоенный вами в раннем детстве». И если вопросы о планировании семьи или о числе кустиков смородины выглядели раздражающими, то данный вопрос иначе как провокационным я назвать не могу.

И вот почему.

Я родился и вырос в Гродно, городе в 60–70-е годы прошлого века практически дебелорусизированном. То есть боролись там не столько с белорусами, сколько с поляками, заполняя культурное пространство русским языком. Но на переписи в межвоенной Речи Посполитой мои дед и бабушка ответили на вопрос о национальности четко: «Белорусы». При этом я почти убежден, что дома они с детьми вряд ли говорили на белорусском языке. Разговорным скорее был польский, что понятно: моя мать, ее младшие братья и сестры родились как раз в то время, когда польский звучал на всех улицах и по радио.

Но моего деда, Иосифа Тарасовича Федуту, выгнали с табачной фабрики за то, что он ходил в белорусский кружок. Публикацию об этом в одной из газет нашел неугомонный лидский краевед Лявон Лавреш, сфотографировал и прислал мне. И мою мать, ходившую в польскую гимназию, приехавшая из коронной Польши «поднимать крэсы» учительница польского языка упрекала:

– Кто это из вас может претендовать на высокую оценку по языку Мицкевича?!

И это при том, что сам Мицкевич, судя по его языку, был таким же белорусом, который так до конца своей жизни литературным польским языком и не овладел!

Я думал, что мама в своих рассказах об этом времени несколько преувеличивает. Пока не прочел примерно такую же историю в воспоминаниях главного гродненского писателя Алексея Карпюка, родившегося чуть западнее моего родного города. При этом ни Карпюк, ни мама, ни тем более я никаких претензий к современным нам полякам не предъявляли. За что? Так сложилась история.

Потом была война. Говорить приходилось по-немецки – особенно если учесть, что мою маму угоняли работать в Германию.

Потом война закончилась. Восстанавливать Гродно приехали специалисты из центральных районов СССР, не затронутых войной в такой степени. На фабрике приходилось разговаривать с трудовыми мигрантами из Краснодара, Ставрополя, восточной Украины на русском языке.

Виновата ли моя мама в том, что всю жизнь говорила на языках, мало соответствовавших той национальности, которую она добросовестно и последовательно обозначала в паспорте и в анкетах? Там Валентина Иосифовна Федута писала: «Белоруска».

И я писал, когда это требовалось: «Белорус».

И я осознаю себя белорусом – и никем иным.

У меня была возможность до изменения польского законодательства претендовать на карту поляка. Моя двоюродная сестра воспользовалась этим правом. Ее отец, родной брат моей мамы, мой дядя Коля, был белорусом, но ее мать, тетя Бася, – этническая полька. И кузина моя не солгала: у нее было право на карту поляка, и она этим правом воспользовалась.

А я – не буду. Я не хочу обманывать ни польский МИД, ни самого себя. Белорус я.

Так по какому праву чиновники из статистического ведомства Республики Беларусь навязывают мне единственно возможное понимание того, что такое «родной язык»? Мне, лишенному этого языка историческими обстоятельствами, но вовсе не по собственной воле? Почему я не имею права указать в переписи «белорусский язык» как родной, если я этого хочу? Какая Людмила Прокофьевна Калугина вкупе с Анатолием Ефремовичем Новосельцевым сошли с киноэкрана, осиротив зрителей «Служебного романа», чтобы навязать мне то, с чем я не желаю смириться?

Я никого не собираюсь обманывать. Даже если я говорю в быту преимущественно на русском языке, у меня есть полное законное право обозначить как родной язык белорусский, потому что я – белорус.

Остальное было бы ложью.

Не заставляйте нас лгать, господа чиновники! Иначе я заставлю вас сдать мне экзамен на знание того языка, который вы считаете родным. Убежден: выше «тройки» вы вряд ли получите.

СТАЛА ВЯДОМА...

# ЦВК зарэгістравала кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі сёмага склікання

## Ад горада Мінска вылучаны:

**ДРАЗДОЎСКІ Канстанцін Вікенцьевіч**, 1974 года нараджэння, дырэктар Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра дзіцячай хірургіі,

**ІВАНЕЦ Андрэй Іванавіч**, 1984 г.н., галоўны вучоны сакратар Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі,

**ІЛЬІНА Марына Аляксандраўна**, 1970 г.н., дырэктар гімназіі №10 г.Мінска,

**РУМО Алег Алегавіч**, 1970 г.н., дырэктар Мінскага навукова-практычнага цэнтра хірургіі, трансплантalогіі і гематалогіі,

**РУНЕЦ Таццяна Аркадзьеўна**, 1969 г.н., начальнік галоўнага ўпраўлення Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь па г.Мінску,

**РУСАКОВІЧ Андрэй Уладзіміравіч**, 1965 г.н., загадчык кафедры дыпламатычнай і консульскай службы факультэта міжнародных адносін БДУ,

**СІВЕЦ Сяргей Міхайлавіч**, 1973 г.н., намеснік дырэктара – кіраўнік Інстытута прававых даследаванняў Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў РБ,

**ЧАЙЧЫЦ Віктар Іванавіч**, 1960 г.н., старшыня Беларускай рэспубліканскай калегіі адвакатаў, адвакат Мінскай абласной калегіі адвакатаў.

## Ад Брэсцкай вобласці:

**МАРКЕВІЧ Васілій Пятровіч**, 1958 г.н., генеральны дырэктар ААТ «Птушкафабрыка «Дружба»,

**КАРПІЦКІ Аляксандр Сяргеевіч**, 1960 г.н., галоўны ўрач Брэсцкай абласной бальніцы,

**ШАЛТАНЮК Анатоль Віталевіч**, 1962 г.н., старшыня Жабінкаўскага раённага Савета дэпутатаў,

**НАРКЕВІЧ Юрый Іосіфавіч**, 1964 г.н., старшыня Брэсцкага абласнога Савета дэпутатаў,

**ШАТЛІКАВА Тамара Анатольеўна**, 1961 г.н., старшыня Брэсцкай абласной калегіі адвакатаў,

**САЧКОЎСКАЯ Ірына Юльянаўна**, 1968 г.н., загадчык натарыяльнай канторы г.Пінска,

**ХРАЛЕНКА Уладзімір Фёдаравіч**, 1963 г.н., дырэктар ААТ «Парахонскае»,

**ПРАТАСАВІЦКІ Рыгор Васільевіч**, 1961 г.н., старшыня Столінскага райвыканкама.

## Ад Віцебскай вобласці:

**ЛЯЎКОВІЧ Ірына Пятроўна**, 1964 г.н., начальнік Галоўнага ўпраўлення гандлю і паслуг Віцебскага аблвыканкама,

**ПАНЦЮХОВА Алена Валяр'янаўна**, 1972 г.н., дырэктар РУП «Радыётэлецэнтр «Тэлерадыёкампанія» Віцебск»,

**ДЗЯМІДАЎ Дзмітрый Уладзіміравіч**, 1975 г.н., старшыня Наваполацкага гарадскога выканаўчага камітэта,

**МАЦВЕЕЎ Уладзімір Сямёнавіч**, 1964 г.н., генеральны дырэктар камунальнага праектна-рамонтна-будаўнічага ўнітарнага прадпрыемства «Віцебскаблдарбуд»,

**ЖЫНГЕЛЬ Алег Валянцінавіч**, 1967 г.н., начальнік рэгіянальнай дырэкцыі па Віцебскай вобласці ААТ «Белаграпрамбанк»,

**ПАЛУШКІНА Таццяна Генадзьеўна**, 1957 г.н., дырэктар Полацкага каледжа УА «Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П.М.Машэрава»,

**ШЧАСНЫ Анатоль Тадэвушавіч**, 1961 г.н., рэктар Віцебскага дзяржаўнага ордэна Дружбы народаў медыцынскага ўніверсітэта,

**ДЗЯРКАЧ Юрый Мікалаевіч**, 1962 г.н., начальнік галоўнага ўпраўлення па ахове здароўя Віцебскага аблвыканкама.

## Ад Гомельскай вобласці:

**АБЕЛЬ Таццяна Валер'еўна**, 1964 г.н., мастацкі кіраўнік заслужанага аматарскага калектыву народнага цырка імя Валерыя Абеля ДУ «Палац культуры «Касцюкоўка»,

**КАТОВІЧ Уладзімір Алегавіч**, 1962 г.н., загадчык аддзялення мікрахірургіі вока №1 Гомельскай абласной спецыялізаванай клінічнай бальніцы,

**ЛЯХАЎ Аляксандр Андрэевіч**, 1962 г.н., генеральны дырэктар дзяржаўнага вытворчага аб'яднання «Беларуснафта» – генеральны дырэктар РУП «Вытворчае аб'яднанне «Беларуснафта»,

**НЯВЕРАЎ Аляксей Мікалаевіч**, 1973 г.н., старшыня Гомельскага абласнога аб'яднання арганізацый прафсаюзаў, якія ўваходзяць у Федэрацыю прафсаюзаў Беларусі,

**СЛІНЬКО Алег Міхайлавіч**, 1975 г.н., дырэктар камунальнага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства «Саўгас-камбінат «Зара»,

**СМАЛЯК Ала Віктараўна**, 1973 г.н., старшыня Гомельскай абласной арганізацыі Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа,

**ШЫШКІН Андрэй Генадзьевіч**, 1972 г.н., галоўны рэдактар газеты «Свабоднае слова» (г.Рагачоў),

**ЯШКОЎ Фелікс Валянцінавіч**, 1964 г.н., начальнік Гомельскай мытні.

## Ад Гродзенскай вобласці:

**РАМАНАЎ Алег Аляксандравіч**, 1975 г.н., першы прарэктар Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы,

**ШЫШКО Аляксандр Мікалаевіч**, 1959 г.н., старшыня сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва «Азёры» Гродзенскага раёна»,

**ЛІСКОВІЧ Віктар Андрэевіч**, 1960 г.н., намеснік старшыні Гродзенскага аблвыканкама,

**СЕРАФІНОВІЧ Кацярына Адамаўна**, 1965 г.н., галоўны рэдактар «Лідскай газеты»,

**САРОКА Эльвіра Аляксееўна**, 1968 г.н., дырэктар Навагрудскага дзяржаўнага сельскагаспадарчага прафесійнага ліцэя,

**СНЯЖЫЦКІ Віктар Аляксандравіч**, 1959 г.н., рэктар Гродзенскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта,

**ГЕДЗІЧ Ігар Мікалаевіч**, 1971 г.н., дырэктар Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра,

**БАЙКО Валянцін Валянцінавіч**, 1969 г.н., намеснік дырэктара па развіцці СТАА «Контэ Спа».

## Ад Мінскай вобласці:

**БАЧЫЛА Аляксандр Аляксандравіч**, 1961 г.н., начальнік галоўнага ўпраўлення юстыцыі Мінаблвыканкама,

**ЗЯБЛІКАВА Алена Алегаўна**, 1967 г.н., старшыня Барысаўскага раённага аб'яднання арганізацый прафсаюзаў, якія ўваходзяць у Федэрацыю прафсаюзаў Беларусі,

**КАПУЦКАЯ Каліна Віктараўна**, 1975 г.н., дырэктар СШ №14 г.Маладзечна,

**ЛУК'ЯНАЎ Уладзімір Міхайлавіч**, 1972 г.н., генеральны дырэктар ААТ «Агракамбінат «Дзяржынскі»,

**ГАЛАВАТЫ Іван Іванавіч**, 1976 г.н., генеральны дырэктар ААТ «Беларуськалій»,

**ЯКУБІЦКАЯ Наталля Віктараўна**, 1971 г.н., старшыня Мінскага абласнога Савета дэпутатаў,

**СУКОНКА Алег Рыгоравіч**, 1951 г.н., дырэктар Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра анкалогіі і медыцынскай радыялогіі імя М.М.Аляксандрава,

**ГАЙДУКЕВІЧ Валерый Уладзіміравіч**, 1953 г.н., дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ шостага склікання.

## Ад Магілёўскай вобласці:

**АНАНІЧ Віктар Міхайлавіч**, 1963 г.н., старшыня праўлення ААТ «ААБ «Беларусбанк»,

**АНЮХОЎСКІ Сяргей Анатольевіч**, 1980 г.н., дырэктар ААТ «Чырвоны харчавік»,

**ВАРАНЮК Дзмітрый Сяргеевіч**, 1987 г.н., першы сакратар ЦК ГА БРСМ,

**ДЗЬЯЧЭНКА Алег Віктаравіч**, 1971 г.н., прарэктар па вучэбнай рабоце Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.А.Куляшова,

**КУШНАРЭНКА Аляксей Іванавіч**, 1975 г.н., генеральны дырэктар дзяржаўнага вытворчага аб'яднання па паліве і газіфікацыі «Белпалівагаз»,

**КАСКО Ігар Барысавіч**, 1971 г.н., галоўны ўрач Магілёўскай абласной дзіцячай бальніцы,

**ПАЛІШЧУК Валерый Мікалаевіч**, 1963 г.н., начальнік Магілёўскага інстытута Міністэрства ўнутраных спраў РБ,

**ПОРТНІК Алег Пятровіч**, 1959 г.н., дырэктар унітарнага камунальнага сельскагаспадарчага прадпрыемства «Саўгас «Добраахвотнік».

ДАРЭЧЫ

## Без Мясніковіча і Шчоткінай?

Уважлівыя чытачы, напэўна, заўважылі, што сярод вылучэнцаў, прапанаваных у верхнюю палату парламента ад кожнай вобласці і Мінска, няма цяперашняга старшыні Савета Рэспублікі **Міхаіла Мясніковіча** і ягонай намесніцы **Мар'яны Шчоткінай.**

У мінулую выбарчую кампанію, дарэчы, і Мяснікові, і Шчоткіна былі абраны сенатарамі ад Мінска.

Але, як вядома, згодна з выбарчым заканадаўствам, яшчэ восем сенатараў прызначае Аляксандр Лукашэнка. Магчыма, 69-гадовы Мясніковіч і 60-гадовая Шчоткіна апынуцца ў гэтым спісе. Паглядзім…

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ДЗІКУНСТВА

## Усё з-за рэўнасці...

У адной з гродзенскіх кватэр быў забіты 48-гадовы мужчына. Забойца з месца здарэння ўцёк, але неўзабаве быў затрыманы.

Як паведамляюць у Следчым камітэце, у гэтай кватэры затрыманы жыў са сваёй сужыцелькай. Напярэдадні здарэння яны пасварыліся, і мужчына пайшоў з хаты. Уначы, калі вярнуўся, пабачыў, што на канапе побач з жанчынай ляжыць незнаёмец. Схапіўшы нож, раўнівец некалькі разоў ударыў таго ў галаву і цела, ад чаго ён сканаў.

Узбуджана крымінальная справа па ч.1 арт.139 КК Беларусі.

Следствам устаноўлена, што падазраваны быў напдпітку. Раней ён не прыцягваўся да крымінальнай адказнасці.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

## Як «палітычная» смерць Хрушчова раптам стала «фізічнай»

Аўтар артыкула, надрукаванага ў «Народнай Волі» 8 кастрычніка (№79) пад загалоўкам **«Ішоў на рызыку, не думаючы пра наступствы»,** выбачаецца перад чытачамі за прыкрую факталагічную памылку.

У матэрыяле, прысвечаным Герою Сацыялістычнай Працы, былому старшыні калгаса «Светлы шлях» Маладзечанскага раёна Уладзіміру Калачыку, расказваецца, што «пасля смерці ў 1964 годзе першага сакратара ЦК КПСС Мікіты Хрушчова» беларус быў у ліку тых, хто ў Крамлі абмяркоўваў механізм «транзіту ўлады».

Насамрэч мелася на ўвазе «палітычная смерць» Хрушчова, якога 14 кастрычніка 1964 года Пленум ЦК КПСС адхіліў ад пасады з прычыны «стану здароўя», скарыстаўшыся адсутнасцю партыйнага правадыра – той якраз знаходзіўся ў адпачынку. У сілу аўтарскага недагляду метафарычны абарот быў не даведзены да ладу і выклікаў законнае абурэнне з боку пільных знатакоў савецкай гісторыі.

Як вядома, Мікіта Хрушчоў памёр ад сардэчнага прыступу 11 верасня 1971-га на 78-м годзе жыцця.

**Ігар КАРНЕЙ, з павагай да чытачоў «Народнай Волі».**

СІТУАЦЫЯ

# «На выбары не пойдзем, няхай пабудуюць дарогу...»



Гродзенскі мікрараён «Ласосна-4» знаходзіцца на ўскрайку горада, па дарозе ў бок Аўгустоўскага канала. Асаблівасць яго ў тым, што тут збудаваны малапавярховыя блакіраваныя дамы, у якіх усяго па некалькі кватэр. Тут жыве каля 400 чалавек. У параўнанні з іншымі мікрараёнамі, дзе ўзведзены 9- і 12-павярховыя гмахі, Ласосна-4 нагадвае Нідэрланды ці Германію з ахайнымі невялікімі дамкамі пакрытымі новай чырвонай дахоўкай. Мікрараён называюць элітным, але яго жыхары гэта не падкрэсліваюць.

Каб дабрацца ў Ласосна-4 ад прыпынка гарадскога аўтобуса, трэба прайсці пешшу альбо праехаць на аўтамабілі каля двух кіламетраў праз лес. І тут галоўныя словы: «праехаць» і «прайсці».

Карэспандэнт «Народнай Волі» выбраўся ў Ласосна-4 на ўласным аўтамабілі.

Два кіламетры ад прыпынка гарадскога транспарту да мікрараёна давялося ехаць амаль паўгадзіны, бо па адзінай тут дарозе на аўтамабілі хутчэй не паедзеш: разбітая гравійка, уся ў ямах, калдобінах і калюгах. Кіроўцы спрабуюць аб'язджаць па абочынах, але і яны разбітыя. Увесь час у галаве думкі, што аўтамабільная падвеска можа тут і застацца.

*«Вось і ўявіце сабе, што мы жывём нібы ў горадзе XXI стагоддзя, а дарога да нас з часоў сярэднявечча*, – кажа жыхарка мікрараёна Вольга Зубкова, якую я спаткаў побач з прыгожымі дамамі. – *І мы ўжо больш за два гады вядзём перапіску з уладамі, але безвынікова».*

Да нашай размовы далучаюцца яшчэ некалькі жанчын, якія гуляюць на вуліцы з дзецьмі. Адна з іх, спадарыня Кацярына, асабліва падкрэслівае: *«Вы разумееце, гэта гарадскі мікрараён, як Альшанка, Фолюш, Вішнявец. А цяпер уявіце сабе, каб да тых мікрараёнаў не была пракладзена асфальтная дарога. А ў нас прыпынак да гарадскога аўтобуса за два кіламетры, ніводнай крамы, аптэкі, садка...»*

Маім суразмоўцам трошачкі больш за трыццаць, у іх ужо па трое дзетак. Спадарыня Юля кажа, што пераважная большасць жыхароў іх мікрараёна – дзеці, якіх трэба вазіць у садок, школу за некалькі кіламетраў.

*«Мне трэба завезці адно дзіця ў садок, другое – у школу, потым вярнуцца, затым зноў з'ездзіць за імі і зноў адвезці на секцыю – за дзень мне даводзіцца разоў шэсць ездзіць*, – дадае Вольга Зубкова. – *А праехаць па гэтай дарозе – пакуты і для мяне, і для дзетак».*

Яшчэ горш, калі старэйшыя дзеці самі ходзяць ад аўтобуснага прыпынка. Са слоў жанчыны, яны ідуць і ў дождж, і ў холад, нават калі на вуліцы цёмна, адны праз лес, а там ліхтароў няма.

Жанчыны кажуць, што да іх адмаўляецца прыязджаць таксі, паколькі кіроўцы ўжо ведаюць гэтую дарогу і не хочуць біць свае аўтамабілі.

За свае сродкі людзі збудавалі дзіцячую пляцоўку, самі зрабілі футбольнае поле, але пракласці дарогу павінна дзяржава, бо, калі людзі бралі крэдыты, каб набыць тут жыллё, іх запэўнівалі, што інфраструктура ў мікрараёне з'явіцца адразу.

*«Нягледзячы на тое, што наш мікрараён называюць элітным, тут жывуць самыя звычайныя людзі, якія працуюць на тых жа гродзенскіх прадпрыемствах і ва ўстановах*, – падкрэслівае маладая жанчына. – *Мы тут усе таксама закрэдытаваныя, не кожны можа сабе дазволіць машыну».*

З восені па вясну дарога ў жахлівым стане. А яшчэ вельмі небяспечна, калі па гэтай дарозе праходзяць танкі. За лесам знаходзіцца вайсковая часць, і яны даволі часта тут ездзяць.

*«Прычым яны не проста ездзяць, а, можна сказаць, лётаюць*, – кажа ўжо Вольга Зубкова. – *Нам дарогу перакрываюць, і мы мусім падчас стаяць каля гадзіны і чакаць, пакуль яны праедуць. А ўявіце, калі дзіця адно ідзе са школы – і танкі едуць. Нават страшна падумаць, бо нават у хатах у нас вокны дрыжаць».*

Адна з жанчын дастае цэлы стос папер – перапіску з чыноўнікамі. Прычым, яна кажа, падобныя стосы папер можна пабачыць літаральна праз хату ў кожнай сям'і.

*«Мы былі ў старшыні гарвыканкама на прыёме, пісалі ў аблвыканкам, Адміністрацыю прэзідэнта – усё безвынікова*, – кажа спадарыня Кацярына. – *Вось чытайце...»*

«...У бягучым 2018 годзе бюджэтам Гродна не прадугледжваецца праектаванне і будаўніцтва добраўпарадкавання пад'язной дарогі да мікрараёна «Ласосна-4» (Гродзенскі гарвыканкам).

А вось які адказ атрымалі жыхары мікрараёна ў 2019 годзе:

«...праведзена працэдура закупкі па выбары падраднай арганізацыі для распрацоўкі праектна-каштарыснай дакументацыі...».

Праз некалькі месяцаў чарговы адказ ад чыноўнікаў:

«...паўторна аб'яўлена працэдура закупкі па выбары падраднай арганізацыі для распрацоўкі праектна-каштарыснай дакументацыі...».

Ёсць нават адказы з ДАІ, куды жыхары Ласосна-4 таксама скардзіліся.

Адна з жыхарак мікрараёна напісала ў сеціве, што сёлета большасць жыхароў не пойдуць галасаваць у дзень выбараў з той прычыны, што няма дарогі. Мае суразмоўцы таксама пацвердзілі такое рашэнне.

Ніхто з іх не ведае дзеючага дэпутата, да іх ніхто не прыходзіў збіраць подпісы за тых, хто хацеў бы бачыць сябе ў крэсле парламентарыя.

*«Ды якія выбары, дзеля чаго яны, калі да нас такое стаўленне?* – вымаўляе адна з жанчын. – *З нас проста здзекуюцца. Вы ж сёння самі тут праехалі і пабачылі, што за дарога...»*

Насамрэч, я праехаў і пабачыў – сапраўднае сярэднявечча.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

*Гродна.*

КРИМИНАЛ

## Задержали, когда сооружал «тайник»

В Солигорске сотрудники отделения по наркоконтролю и противодействию торговле людьми задержали жителя города, когда он устраивал «тайник» для закладки психотропов на городской улице Октябрьской. И это был не безбашенный юнец, а 46-летний мужчина. Возраст, когда, казалось бы, человек уже должен сам удерживать молодежь от дурных, а тем паче криминальных поступков.

По информации РОВД, задержанный являлся «закладчиком» – расфасовывал наркотик на дозы и закладывал в различных частях города. При осмотре автомобиля задержанного оперативники обнаружили и изъяли более 100 граммов упакованного в свертки особо опасного психотропного вещества ALPHA-PVP.

В отношении мужчины возбуждено уголовное дело по ч.3 ст.328 УК Республики Беларусь (незаконный оборот наркотических средств, психотропов и прекурсоров).

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

НОВАЕ ПАКАЛЕННЕ

# Місія Павука

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*


Андрэй Павук з жонкай Вольгай.

## Фотастудыя плюс народнае тэлебачанне

Чалавек творчы і самалюбівы, Андрэй не застаўся без справы – стаў зарабляць на жыццё, аказваючы рудабельцам фотапаслугі. Зарэгістраваўся прадпрымальнікам, узяў у арэнду на аўтастанцыі пакой пад фотастудыю. Але дзейная натура патрабавала разнастайнасці, нечага большага, і Андрэй стварыў у «Аднакласніках» і «УКантакце» суполку «Рудабельская паказуха» – яна амаль адразу згуртавала больш за тысячу чалавек.

Якіх толькі тэм не абмяркоўвалі ў суполцы! Стан медыцынскіх устаноў і спартыўных збудаванняў у райцэнтры, неабгрунтаваную рэкламу піва і моцных напояў, абмялелыя вясковыя калодзежы з іржавай вадой і руйнаванне помнікаў ахвярам фашызму, імунізацыю падрастаючага пакалення супраць грыпу і набыццё райвыканкамам за бюджэтныя грошы шыкоўнага аўто.

Нават філасофскія пытанні ўзнімалі ды запытваліся наконт практыкі дзяржаўнага кіравання кшталту: «Ці адчуваеце вы сябе вольным чалавекам?», «Ці павінен райвыканкам трымаць справаздачу перад насельніцтвам?», «Якога прэзідэнта вам хацелася б мець у Беларусі?». Павук імкнуўся разняволіць рудабельцаў, пазбавіць іх ад страху і грамадскай апатыі.

Цікавасць да навін падахвочвалі відэасюжэты, заснаваныя на рэальных падзеях кшталту «Вёскі раёна». Некаторыя ролікі «народнага тэлебачання» набіралі да 30 тысяч лайкаў – у два з лішнім разы больш, чым усіх жыхароў у рудабельскім краі.

Калі ж Андрэй заўважаў, што дзелавы стыль рудабельцам надакучвае, ён браўся за гітару, запісваў песні на злобу дня – з гумарам, часам з едкай сатырай. Прыкладам, пра шыкоўны джып «Touareg», набыты райвыканкамам у Год беражлівасці, або пра царкоўныя паслугі, кошт якіх выражаны ў вялікіх грашовых купюрах.

Высмейваў бард у сваіх песнях і публічныя скажэнні фактаў беларускай гісторыі, разважаў пра грамадзянскую пазіцыю чалавека наогул і сваю ў прыватнасці:

*«Жыццё праходзіць – і штосьці трэба рабіць. Надышоў час сапраўдных мужчынскіх учынкаў. Калі ты жывеш сярод людзей, якія баяцца нават таго, што можна, то адчуваеш сябе некамфортна і ў цябе няма спосабу развівацца ў такім грамадстве»*.

Блогер заклікаў і заклікае рудабельцаў, паказвае асабістым прыкладам: не спіце ў шапку, выказвайцеся, абмяркоўвайце свае праблемы. Гэта ж не забаронена. Андрэй аб'ездзіў шмат якія вёскі, распытваў людзей, прасіў выказацца, здымаў. Іншым разам атрымліваліся проста-такі жахлівыя відэасюжэты пра стан некаторых ферм і паселішчаў. Па ўказаных адрасах нават выпраўляліся камісіі дзяржаўнага кантролю і пацвярджалі факты бязладдзя і падзяжу жывёлы ад бяскорміцы. Нядбайным кіраўнікам гаспадарак кантралёры «пернікі» раздавалі. А Павук у сваю чаргу ад імя «Рудабельскай паказухі» ўручаў лісты-падзякі вяскоўцам, якія паведамлялі пра факты безгаспадарчасці. Праз ініцыятыву ламаў тыя загародкі, у якія заганяе ўлада – вось ваша месца, ваша стойла.

Да сяброў інтэрнэт-суполкі даходзілі чуткі, што часцяком раніца ў райвыканкаме пачыналася з іхніх навін. Там сачылі, абмяркоўвалі. Не абыходзілася без парадоксаў: адміністратарам ад адукацыі наказвалі, каб у навінах школьнікі не пазначалі свае класы, не выказвалі нейкіх сімпатый і наогул не актыўнічалі ў сецiве ў мясцовай суполцы.

Тым часам на адрас блогера і яго паплечнікаў у сацыяльнай сетцы прыляталі абразы і пагрозы: «Сапраўдная шайка выспяваючых тэрарыстаў. Такое трэба высякаць з коранем! Хочуць зрабіць Майдан у краіне, як ва Украіне. Андрэй Павук, у яго прага ўлады, хоча заняць месца А.Р.Лукашэнкі».

Павук у міліцыю: прыцягніце да адказнасці! У наяўнасці заклікі да гвалту, варажнеча, палітычная нецярпімасць. Неўзабаве міліцыя адказала: няма «тэхнічнай ды іншай магчымасці» ўстанавіць тых асоб.

«Аддзячвалі» няўрымсліваму блогеру-земляку і чыноўнікі. Пісалі заявы ў міліцыю: Павук узводзіць паклёп – «салёна» запытаўся пра карупцыю і «дэпутацкія душы«, «занудліва прыставаў» з пытаннямі, «узрушаў», «перашкаджаў сваёй прысутнасцю».

Міліцыя, канечне, рэагавала – заводзіла адміністрацыйныя справы, складала пратаколы, а суд – штрафаваў. Да гэтага дадаліся штрафы Андрэю на падставе ананімных здымкаў за паркоўку аўтамашыны, вынеслі прадпісанне як старшыні жыллёва-будаўнічага кааператыва. Верхам «падзякі» стала датэрміновае скасаванне дамовы на арэнду памяшкання пад фотастудыю. Не стала працы, заробку.

## Дзейнасць, якая палохае

Напрыканцы лета 2016 года Павук спрабаваў уладкавацца ў трох школах раёна на адкрытыя вакансіі – педагога-арганізатара, інжынера-праграміста і нават прыбіральшчыка службовых памяшканняў. Але марна. Яму ўсюды адказвалі: вакансіі ўжо запоўнены. Не дапамог нават пісьмовы зварот да намесніка старшыні райвыканкама.

Няўдалай выдалася і спроба Андрэя на прапанову раённага аддзела адукацыі ўладкавацца на пачатку 2017 года ў Любанскую сярэднюю школу настаўнікам біялогіі ды хіміі на замену штатнай выкладчыцы, якая сышла ў дэкрэт. Нечакана на адрас аддзела адукацыі прыйшоў ліст пратэсту ад бацькоў школьнікаў. Ініцыявала пратэст старшыня сельсавета Тамара Кароль. Маўляў, нельга Павука прызначаць настаўнікам з прычыны яго дзейнасці. Адзін з васьмі подпісаў бацькоў аказаўся падробленым, але на гэта махнулі рукой.

Пад «дзейнасцю» Андрэя Павука меліся на ўвазе зробленыя ім відэасюжэты пра мясцовае жыццё, у якіх часцяком даставалася і кіраўнікам. Пра карысць такіх відэаролікаў і публікацый у «Рудабельскай паказусе» ніхто з чыноўнікаў, канечне, не згадваў. А дарма. Варта было Павуку паказаць, напрыклад, гаротны стан дзіцячага аддзялення райбальніцы, як адразу знайшліся сродкі на рамонт.

29 жніўня таго ж 2017 года Андрэй выйшаў на галоўную плошчу Рудабелкі з плакатам «Вазьміце Павука на працу!». Да гэтага стаяў з плакатам у фае Дома культуры, дзе праходзіла раённая педагагічная нарада, але начальства праходзіла міма. На плошчы Андрэя заўважылі – бач, парушае заканадаўства аб масавых мерапрыемствах! Участковы Дзмітрый Крумгольц тут жа склаў на Павука адміністрацыйны пратакол, а суддзя Уладзімір Васілеўскі пакараў штрафам у 230 рублёў.


Суд Акцябрскага раёна.

*«У судзе я казаў,* – згадваў пазней Андрэй, – *што ў мяне склалася цяжкая жыццёвая сітуацыя – неабгрунтавана адмаўляюць у працаўладкаванні ў школах раёна, нават калі прашуся на вакансію лабаранта або прыбіральшчыка. З жонкай гадуем дваіх дзяцей, плацім крэдыт за кватэру, а працуе яна адна. Спасылаўся і на беларускую Канстытуцыю, на гарантаваную грамадзянам свабоду перакананняў ды іх вольнае выяўленне. Нічога пад увагу не бралася»*.

Але Павук не быў бы Павуком, калі б адступіўся. Надумаўся паставіць нешта кшталту сацыяльнага эксперымента ці тэста для ўлад, каб вызначыць, як забяспечваюцца ў краіне правы асобнага грамадзяніна. Калі нельга без дазволу заявіць публічна пра сваё беспрацоўе, то, магчыма, можна прызнацца жонцы ў каханні?

Андрэй даводзіць сітуацыю да абсурду, падае адпаведныя запыты наконт такога пікета ў мясцовы райвыканкам, Гомельскі і Мінскі гарвыканкамы. Акцябрскі і Гомельскі выканаўчыя камітэты не супраць – выказвай свае пачуцці да жонкі ў любой форме. А вось Мінскі гарвыканкам запратэставаў: правядзенне адзіночнага пікета не адпавядае закону аб масавых мерапрыемствах і рашэнню Мінгарвыканкама «Аб вызначэнні ў Мінску месцаў для правядзення масавых мерапрыемстваў».

Павук прасіў няшмат – пастаяць цягам дзесяці хвілін на Кастрычніцкай плошчы з плакатам «Ты неверагодная! Оля Павук, я люблю цябе!». Не дазволілі. Ён абскардзіў адмову ў суд. Нічога не атрымалася. Тады Андрэй узяў і сфатаграфаваўся на Кастрычніцкай плошчы сталіцы з плакатам «Оля Павук, я люблю цябе!».

Летась у чэрвені блогер наважыўся спраўдзіць сітуацыю адносна любові рудабельскіх чыноўнікаў да мясцовых жыхароў. Узяў ды вырабіў майку з нанесенымі на яе фотаздымкамі намесніка старшыні райвыканкама па ідэалогіі Уладзіміра Елісеева і кіраўніцы спраў Валянціны Шлапаковай. І надпіс зрабіў: «Яны любяць цябе». Апрануў гэту майку на сябе і прыйшоў на плошчу перад райвыканкамам, дзе выпускнікі школ ладзілі развітальную вечарыну.

Чыноўнікі «з майкі» пакрыўдзіліся на блогера і падалі заявы ў міліцыю, што Павук іхні гонар «абразіў і зняважыў пачуцці сям'і».

У пацвярджэнне Елісееў пісаў (мова і стыль заявы захаваны): Павук *«демонстративно ходил, одетый в майку с нанесением фотографий, цветная фотопечать с изображением меня и Валентины Шлапаковой»*.

Фотаздымкі чыноўнікаў блогер узяў з афіцыйнай мясцовай газеты «Чырвоны Кастрычнік». Разважаў так: чыноўнікі – публічныя асобы, надпіс «Яны любяць цябе» выяўляе ўдзячнасць рудабельцам як падаткаплацельшчыкам.

*«Намагаўся,* – кажа з усмешкаю Павук, – *выказаць пашану за іх лёсавызначальныя рашэнні дзеля паляпшэння жыцця жыхароў раёна. А яны – пакрыўдзіліся»*.

Міліцыянты апыталі блогера, але складаць пратакол за абразу не сталі. На яўную нязграбнасць не пайшлі.

Адквіталіся ўлады іншым чынам. Надарыўся выпадак. Пра пераслед блогера за майку з надпісам расказаў беларускамоўны тэлеканал «Белсат», які транслюе свае перадачы з тэрыторыі Польшчы. І хоць Андрэй быў галоўным героем тэлесюжэта, тым не менш яго абвінавацілі ў незаконным вырабе і распаўсюджванні прадукцыі СМІ праз замежны тэлеканал без акрэдытацыі ў беларускім МЗС. І чарговы раз праз суд аштрафавалі ажно на 735 рублёў.

*«Гэта помста чыноўнікаў за майку,* – перакананы Андрэй. – *Не атрымалася пакараць мяне за абразу, дык пакаралі за ўяўнае супрацоўніцтва з «Белсатам»*.

Помста адчувальная. Андрэй на той час ізноў стаў беспрацоўным, бо пакінуў Гацкае лясніцтва, дзе восем месяцаў рабіў леснікомі.

## Паход ва ўладу

На пачатку 2018 года Павук уключыўся ў палітычную кампанію пад назвай «Выбары ў мясцовыя Саветы». Балатаваўся кандыдатам у дэпутаты райсавета ў Гацкай акрузе №16 – там жа, дзе было і лясніцтва. Вяскоўцы пацяшаліся падчас перадвыбарнай агітацыі. Павук у гарнітуры і пры гальштуку рамантаваў па адной яміне на разбітых мясцовых дарогах. Яўная пародыя на дзейнасць дэпутатаў мясцовых Саветаў, дзе засядаюць пераважна начальнікі.

У райсавет блогер, вядома, не патрапіў. Дэпутатам тут стала намесніца старшыні райвыканкама па эканоміцы Ірына Намочанка. Яна ж узначаліла камісію па эканоміцы, бюджэце і камунальнай уласнасці, якая і плануе выдаткі сродкаў на рамонт дарог ды іншыя патрэбы раёна. Сама вызначае і сама кантралюе, ідылія дый годзе!

Так званыя выбары падштурхнулі Андрэя Павука глыбей зацікавіцца дзейнасцю мясцовых органаў улады – яны ж наўпрост стасуюцца з насельніцтвам і дэкларуюць, што працуюць адкрыта і галосна. Ну і паставіў сабе на мэту зрабіць мясцовую ўладу больш адкрытай для людзей.

Пайшоў на нараду старшыні райвыканкама з кіраўнікамі раённых службаў – завярнулі назад. Папрасіўся прысутнічаць на сесіі райсавета – не маеш права. Паспрабаваў неяк самастойна дачакацца нарады – выдалілі з будынка райвыканкама з дапамогай міліцыі. Маўляў, пра дзейнасць «вертыкалі» чытай інфармацыю ў раённай газеце «Чырвоны Кастрычнік».

Скаргі ў вышэйшыя інстанцыі, Гомельскія аблвыканкам і аблсавет, станоўчых вынікаў не мелі, хоць Павук і спасылаўся на артыкул 23 Канстытуцыі і артыкул 19 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, якія ратыфікавала Беларусь.

Блогер змяніў тактыку. 25 верасня мінулага года ён, ведучы стрым на Youtube-канал, зноў пайшоў на сесію райсавета. Меўся, што называецца, з першых вуснаў атрымаць інфармацыю пра выкананне ў раёне праграмы занятасці насельніцтва. Такі быў парадак дня сесіі, дарэчы, важны для райцэнтра, бо многія рудабельцы з-за беспрацоўя ездзяць у Расію на заробкі. Маладыя людзі мараць перабрацца ў Мінск, а некаторыя – наогул з'ехаць за мяжу. Аднак пабачыць, што робяць на адказным форуме так званыя абраннікі народа, блогеру не ўдалося.

«Вам забаронена тут знаходзіцца», – заявіў маёр міліцыі, і Павука ў жывым эфіры вывелі пад рукі з залы пасяджэнняў, дзе пачыналася сесія.

Павук у пракуратуру: *«Дзе ж адкрытасць? Маю права атрымаць поўную і аб'ектыўную інфармацыю пра дзейнасць нашых улад»*.

Раённы пракурор Лявончык у належны час адказаў блогеру пісьмова:

*«Баявых прыёмаў і спецыяльных сродкаў міліцыя ў дачыненні да вас не прымяняла. Такім чынам, дзеянні супрацоўнікаў міліцыі былі накіраваны на ахову грамадскага парадку, а не на парушэнне вашых правоў на атрыманне інфармацыі»*.

Павук – у суд. Скаргу разглядаў спачатку мясцовы суд. Але яшчэ на стадыі разбіральніцтва здарыўся скандал. У перапынку на стале прадстаўніка пракуратуры выявілася загадзя падрыхтаванае рашэнне. Суддзя ўзяў самаадвод. Справу перадалі на новы разгляд у Мазырскі раённы суд, і ўжо ён адхіліў прэтэнзіі блогера да рудабельскіх чыноўнікаў. Адсюль і выснова Павука: *«Пакуль няма выбараў, людзі ўладзе не патрэбны»*.

## «Дзіванныя навасці»

Новы досвед і назіранні натхнілі блогера на карэкціроўку спосабу адлюстравання рэчаіснасці. Андрэй разам з каларытным рудабельцам Васілём Качэнем запачаткаваў сатырычныя «Дзіванныя навасці». Дадалі крыху перцу ў свае паведамленні. Рабілі ўсё проста, каб выклікаць смех.

*«Смеючыся, людзі пазбаўляюцца ад скаванасці і страху, пашыраюць зону ўласнай свабоды. Заадно хтосьці, не адрываючыся ад канапы, перакіне праз камп'ютар тэму для «навасцей»,* – перакананы Павук.

У навінах увялі і агляд дзяржаўнай раённай газеты «Чырвоны Кастрычнік» – робяць гэта ў гумарыстычнай перадачы «Адураюшчы «ЧК». Перадачы рыхтуюць на «трасянцы». Канечне, не лепшы варыянт – лепей бы на добрай беларускай мове. Але стваральнікі «Паказухі» лічаць, што праз «трасянку» людзі не забудуць роднай мовы. Бо зараз паўсюдна пануе расійская мова, чыноўнікі беларускай не карыстаюцца. Знікае яна і з адукацыі. У краіне толкам ніхто не абараняе правы чалавека, які хоча размаўляць на беларускай мове – мове тытульнай нацыі. Гэтага не робіць нават дзяржава, якая адказная перад грамадзянінам за стварэнне ўмоў свабоднага і годнага развіцця асобы.

## Прызначаны «мінёр»

Стрымы, розныя праблемныя навіны, прыпеўкі, каментарыі ў «Рудабельскай паказусе» і асабістым блогу Андрэя Павука, падобна, моцна занепакоілі ўлады. І сёлета яны распачалі больш жорсткія рэпрэсіўныя меры супраць блогера.

20 сакавіка ў яго кватэры супрацоўнікі крымінальнага вышуку Акцябрскага РАУС правяліператрус, забралі на агляд камп'ютарную тэхніку, мабільныя тэлефоны, партатыўную відэакамеру, якую ён выкарыстоўваў для падрыхтоўкі відэаролікаў і розных інфармацыйных паведамленняў у сацыяльных сетках. Акурат у той дзень Павук даглядаў дома пяцігадовую дачку. Міліцыя затрымала Андрэя, вымусіўшы яго пакінуць дзіця адно ў кватэры, па сутнасці, у небяспечнай сітуацыі.

У райаддзеле блогера трымалі пяць гадзін на той падставе, што нібыта з яго электроннага адраса ў Гомельскае ўпраўленне Міністэрства па надзвычайных сітуацыях паступіла паведамленне пра мініраванне Акцябрскага райвыканкама. Скрыншот паведамлення ні міліцыянты, ні следчыя не паказалі. Тым не менш супраць Андрэя завялі крымінальную справу паводле часткі 1 артыкула 340 КК – па факце паведамлення пра мініраванне. Максімальны тэрмін пакарання па згаданым артыкуле – да пяці гадоў пазбаўлення волі.

Неўзабаве крымінальны пераслед спынілі, бо Павук ніякім бокам не быў датычны да ілжывага паведамлення пра мініраванне. А вось забраную ў сям'і блогера тэхніку правяралі амаль два месяцы.

У маі гісторыя з «мініраваннем» паўтарылася. На электронную пошту МНС зноў паведамленне пра закладзеную выбухоўку, але ўжо не выканкама, а суда ў Мазыры, дзе пачынаўся суд над калінкавіцкім прадпрымальнікам і блогерам Віталём Манько. Міліцыя ў чарговы раз стала выклікаць Павука. І зноў-такі на той падставе, што ў паведамленні значыўся яго мабільны тэлефон.

*«Усё гэта выглядае,* – заўважае Андрэй Павук, – *злоснай помстай за крытыку ўлад у маім блогу і ў суполцы «Рудабельская паказуха». Мусіць, мяне наважыліся зрабіць «штатным мінёрам», каб у любым зручным выпадку тузаць і трымаць на павадку. Не здзіўлюся, калі гэта ёсць і адзін з варыянтаў уладнага рэгулявання Байнету, пра які ўслых не гавораць»*.

З асабістай ініцыятывы блогер звярнуўся ў рэгіянальнае ўпраўленне Следчага камітэта з просьбай разабрацца, хто выкарыстоўвае яго асабістыя звесткі для ілжывых паведамленняў пра мініраванне дзяржаўных устаноў. Уцямнага адказу не атрымаў.

Накіроўваў таксама скаргі ў раённую і абласную пракуратуры на незаконнае затрыманне міліцыяй і абвінавачванне ў «мініраванні». Зламысніка прасіў выявіць. Адказалі: няма падстаў для пракурорскага рэагавання. У прыватнасці, пракурор Гомельскай вобласці Віктар Марозаў замест высновы пра тую самую дастатковасць падстаў на перагрус і крымінальную справу ў лісце ад 10 мая спаслаўся на небяспеку паведамленняў пра мініраванне для жыцця і здароўя людзей. Хто б сумняваўся!

З Генеральнай пракуратуры начальнік упраўлення па наглядзе за выкананнем законаў у дзейнасці органаў дазнання Салаўдзі Магамадаў гэтаксама даводзіў Павуку: *«Для Вашага затрымання ў службовых асоб меліся дастатковыя падставы падазраваць Вас у здзяйсненні злачынства»*. Якія гэта падставы, адказу зноў-такі не было.

## Безабароннасць перад самавольствам

Стуканне-груканне ў інстанцыі не дадало блогеру яснасці, хто і з якіх кабінетаў мэтанакіравана падштурхоўвае яго пад крымінальныя артыкулы. Бачным было іншае: робіцца гэта афіцыйна праз міліцыю. Андрэй і прад'явіў праз суд іск Акцябрскаму РАУС на кампенсацыю маральнай шкоды – 25 тысяч рублёў.

*«Дзеянні міліцыі прынеслі мне і працягваюць прыносіць значную маральную шкоду. Міліцыянты дзейнічаюць без разбору, яны прынізілі маю чалавечую і грамадзянскую годнасць. Адчуваю безабароннасць перад самавольствам і ўсёдазволенасцю супрацоўнікаў міліцыі ды іншых сілавікоў»,* – заяўляе блогер Павук.

Пазоў блогера да міліцыі ўжо разглядаецца ў судзе Акцябрскага раёна. Прадстаўнікі райаддзела і ўпраўлення ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкама не прызнаюць прэтэнзій.

Напярэдадні разгляду справы Павук атрымаў паведамленне з пагрозамі. Невядомыя асобы нібыта з філіпінскага нумара раілі *«задумацца над сваімі паводзінамі»* і *«не гуляць з агнём»*.

*«Скажы дзякуй,* – папярэджваюць ананімы, – *што нічога не падкінулі. Калі будзеш займацца сабатажам і ачарненнем існуючай улады, будуць прымацца меры ў дачыненні да цябе. Сядзеш, і твая* (непрыстойнасць) *жонка будзе перадачкі насіць»*.

Далей – болей. Увечары 4 кастрычніка на мабільнік блогера пазваніў аператыўны дзяжурны РАУС. Спраўджваў, што здарылася.

Паводле сцвярджэнняў дзяжурнага, у міліцыю паступіў званок нібыта з нумара самога Павука: паведамілі, што Андрэй «забіў сваю жонку Вольгу».

*«Я запісаў гэтае паведамленне. Нейкая п'яная ці з добрымі акцёрскімі задаткамі асоба назвалася маім імем, указала наш з жонкай хатні адрас і паведаміла пра забойства. Голас нізкі, язык заплятаўся. Мяркую, што гэта зрабілі тыя ж самыя рэжысёры, што раней ад майго імя дасылалі ілжывыя паведамленні пра мініраванне Акцябрскага райвыканкама і Мазырскага суда»,* – дадае Андрэй Павук.

Пра вечаровы інцыдэнт Андрэй з Вольгай адразу ж запісалі для Youtube-канала невялічкі відэаролік, у якім звярнуліся да дзейнага старшыні Акцябрскага райвыканкама: *«Адрэй Бараноўскі, разбярыцеся, што ў раёне дзеецца!»*

5 кастрычніка Андрэй з жонкай наведалі райаддзел міліцыі. Там адкрыта сказалі, што хулігана не знойдуць: маўляў, на міліцэйскай апаратуры не высвеціўся код. Аднак Вольга Павук усё адно напісала заяву:

*«Патрабую знайсці зламысніка, высветліць матывацыю яго тэлефанавання, а таксама ўстанавіць алгарытм выкарыстання тэлефона мужа для супрацьпраўных небяспечных гульняў»*.

## Пакліканне

Розныя інфармацыйныя рэсурсы па-рознаму адклікаюцца на дзейнасць блогера Павука. Адны часам называюць яго «тролем з глыбінкі», іншыя – «крэатыўнай асобай», «творцай».

У Павука маецца вялікае грамадзянскае пакліканне. Ён – неабыякавы да таго, што дзеецца вакол яго. Ён – таленавітая асоба, імкнецца быць грамадзянінам у сваёй краіне, а не паслухмяным «вінцікам» у прыгаломшаным электарацэ. Урэшце, блогер як стваральнік і распаўсюджвальнік непадцэнзурнай інфармацыі – вялікая пагроза для рэжыму з сервільнымі медыямі.

Вядомы беларускі палітык і грамадскі дзеяч Аляксандр Ярашук у сваім допісе ў Facebook так адклікаецца пра Андрэя Павука: *«Не падымаецца рука напісаць ці назваць яго блогерам, бо грамадскі статус Андрэя, з майго пункту гледжання, істотна вышэйшы. Ён даўно перарос мясцовыя маштабы і стаў нацыянальнай з'явай. Мала каму ўдаецца так, як Андрэю, сваімі крэатыўнымі дзеяннямі, якія не выходзяць за межы закона, ставіць мясцовую ўладу ў тупік і выстаўляць на смех»*.

З такімі высновамі цяжка не пагадзіцца.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**
*Акцябрскі–Мінск.*

**Фота аўтара.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
11 КАСТРЫЧНІКА 2019 г.

ДАСЛОЎНА

# Родная мова – гэта крыніца нашай нацыянальнай культуры

*Дэпутат Палаты прадстаўнікоў і старшыня камісіі па міжнародных справах, экс-намеснік міністра замежных спраў, былы пастаянны прадстаўнік Беларусі пры АБСЕ **Валерый Варанецкі** выступіў у падтрымку беларускай мовы.*



На сваёй старонцы ў Facebook ён напісаў: «*Прытрымліваюся пункту гледжання, што першая засвоеная мова не абавязкова з'яўляецца роднай. Зыходжу з таго, што родная мова вызначаецца наяўнасцю ў нас эмацыянальнай сувязі з ёй.*

*Мне бліжэй падыход, згодна з якім, «родная мовай прызнаецца мова народа ці этнічнай групы, да якой адносіцца чалавек, мова, якая злучае яго з папярэднімі пакаленнямі, іх духоўнымі набыткамі і служа падмуркам этнічнай і нацыянальнай самаідэнтыфікацыі».*

*Родная мова – гэта крыніца нашай нацыянальнай культуры, ментальнасці, светапогляду*».

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Макар ШНІП:

# «Адчуў патрэбу нешта змяніць у сабе»

*Былы дырэктар ліцэя БДУ Макар Шніп расказаў «Народнай Волі» пра новае месца працы і прычыны свайго сыходу з прэстажнага ліцэя краіны, у якім ён працаваў амаль 16 гадоў, і пяць апошніх – кіраўніком навучальнай установы.*

У жніўні, напярэдадні новага навучальнага года, навіна пра звальненне Шніпа стала сенсацыяй. Малады таленавіты дырэктар, які карыстаўся непадробным аўтарытэтам і ў вучняў, і ў педагогаў, нечакана змясціў у сацыяльных сетках запіс пра свой сыход з ліцэя. А паколькі ён не назваў прычын такога рашэння, адразу ж папаўзлі розныя чуткі. Была і такая версія: у ліцэй БДУ паступіла ўнучка Аляксандра Лукашэнкі Анастасія, таму, маўляў, і прыбралі дырэктара-дэмакрата. Але насамрэч ніякіх падводных камянёў тут не было. Ва ўсялякім разе Макар Шніп кажа, што вырашыў паспрабаваць сябе ў новай якасці, таму і звольніўся. Нядаўна ён працаўладкаваўся ў Інавацыйную кампанію Promwad – незалежны дызайн-цэнтр электронікі.

**– Цікава, чым там будзе займацца гісторык Шніп?** – запыталіся мы ў Макара Аляксандравіча.

– Так, я гісторык, але ж і ў адукацыі шмат гадоў. Буду ў Promwad займацца арганізацыяй унутранага адукацыйнага працэсу для супрацоўнікаў.

Мне прыемна, што кампанія звярнулася да мяне з такой прапановай, што мной зацікавіліся. Гэта своеасаблівы выклік для мяне як для гуманітарыя. Я бачу, што Promwad не падобная на ўсе іншыя нашы кампаніі, сканцэнтраваныя ў Парку высокіх тэхналогій, якія займаюцца праграмным забеспячэннем, канчатковым прадуктам. Мая праца будзе звязана не з «жалезам», яна тычыцца развіцця супрацоўнікаў, праходжання імі курсаў, трэнінгаў.

**– Promwad – рэзідэнт ПВТ. Напэўна, і ваш заробак будзе выгадна адрозніваецца ад настаўніцкага?**



– Не хацелася б параўноўваць. Я адпрацаваў у адукацыі 16 гадоў, дабраўся да адпаведных вяршынь у прафесіі. Тут я толькі пачынаю...

Для мяне заробак не асноўнае. Вызначальным было тое, што я пачынаю працу ў новай для сябе і вельмі цікавай, дынамічнай сферы, у кампаніі, якая расце, развіваецца і мае досыць амбіцыйныя планы. У Promwad працуюць выпускнікі ліцэя, для мяне гэта таксама было прыемна.

**– Макар Аляксандравіч, і ўсё ж скажыце самі пра прычыну свайго звальнення з дырэктарскай пасады, каб раз і назаўсёды спыніць усялякія чуткі?**

– Тут, паверце, няма ніякага сакрэту. Проста я адчуў патрэбу нешта змяніць у сабе. Я працаваў у ліцэі БДУ амаль 16 гадоў – з 2003-га. Гэта вялікі досвед. Але ўзрост яшчэ дазваляе ўдасканальвацца ў прафесійным развіцці, чаму б не рызыкнуць?!.

Не было ў маім звальненні ніякіх момантаў, звязаных з тым, што мая кандыдатура кагосьці не задавальняла. Гэта было толькі маё рашэнне, прага спазнаць новы досвед! Лічыце, што гэта такая прыгода, авантура...

**– З ліцэем развіталіся назаўсёды?**

– Ні ў якім разе! Працую там і зараз як сумяшчальнік. Каб не забываць гісторыю Беларусі, ліцэйскую атмасферу, як хобі пакінуў сабе падрыхтоўчую групу ў так званым вячэрнім ліцэі.

**– Паспехаў вам на новай працы, хаця, канешне, шкада, што наша сярэдняя школа пазбаўляецца такіх прафесіяналаў.**

– Я думаю, што моцная каманда педагогаў ліцэя захаваецца. Новы дырэктар – Ігар Мікалаевіч Варакса – чалавек вельмі прафесійны, вопытны, сам выпускнік ліцэя, доўгі час працаваў намеснікам дырэктара... А я паспрабую быць карысным і эфектыўным тут, на новым месцы, для кампаніі Promwad.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ЛЮДИ ДЕЛА

# Своя колея

*Глава фермерского хозяйства «Островецкое», что в Гродненской области, **Павел Юрмашев** в прошлом военный, а его заместитель **Леонид Новогран** и по образованию, и по образу мышления инженер-физик. Сейчас они оба вполне успешно занимаются производством мяса индейки…*

*Наш корреспондент попытался выяснить у Леонида Новограна причины и следствия этой метаморфозы…*

### «Куда втиснуться, где найти свою нишу?..»

…Всё, в общем, закономерно. Было время, когда в связи с известными переменами в жизни страны научно-производственные и военные темы начали закрываться и возник спрос на вполне мирные проекты. Например, такие, как производство лазерных установок для обработки различных материалов, в том числе металлов и природного камня. И так далее. Попробовали одно, другое, третье…

– Было так, – говорит Леонид Новогран. – Вроде какую-то тему нащупаю, начинаю развивать, а потом она бац – закрывается! И непонятно, где искать концы! А хотелось, чтобы избранная сфера деятельности оказалась по меньшей мере «неубиваемой». То есть всегда нужной, всегда обеспечивающей возможность нормально жить.

С методичностью, свойственной всякому приличному профессионалу, велся поиск именно той отрасли, которая будет нужной всегда. И он неизбежно привел к сельскому хозяйству.

Но сельское хозяйство – ого какое! И чего там только нет! Куда втиснуться, где найти свою нишу?

Выручили широта взглядов главы хозяйства и системный подход инженера. Даже поверхностный анализ показал, что самая рентабельная отрасль – животноводство, а в животноводстве – птицеводство. Дальше уже дело техники: поиск решения привел к тому, чего в Беларуси практически не было, – производству мяса индейки.





### Начало

…Какие-то деньги для начала имелись. Частично заработанные раньше, частично занятые у знакомых. Немало времени ушло только на изучение этого бизнеса. Пришлось поездить по странам, где технология была уже отработана и производство мяса индейки поставлено на поток, – Германия, Нидерланды, Польша… На основании их опыта выстроили технологию, взяв за основу опыт польских фермеров. Идея заключалась в том, чтобы закупать индюшат, производить собственный комбикорм, выращивать птицу до необходимого веса, убивать, разделывать и продавать уже готовое, упакованное мясо.

Естественно, нужны были помещения для птичников. Строить их с нуля – дорого. Поэтому решили поискать уже существующие помещения, которые можно взять в аренду. Определили территорию радиусом в 200 километров от Минска, начали поиск. И вполне успешно: нашли 60 площадок, на которых можно было взять в аренду подходящие помещения. После дополнительного изучения площадок остановились на трех. Потом из этих трех выбрали одну – на территории Островецкого района, в деревне Изабелино. Там местный СПК «Красный Октябрь» строил помещения утководческие, но почему-то забросил.

А здание висели на балансе, требовали охраны и иных вложений. В общем, стали Новогран и Юрмашев их арендовать. Государство помогло с газификацией, взяв на себя 50 процентов затрат.

### Производство

Работы начали в 2003 году с двух птичников, в которых уже в 2004-м разместили 10.000 индюшат, завезенных из Германии. Это была первая, выражаясь профессиональным языком, посадка. Первая и, как водится, не самая удачная. Потому что по разным причинам падеж составил около 40 процентов. То есть очень много!

И все равно получилось около 60 тонн мяса. Оно было успешно реализовано, что и позволило двигаться дальше. Сегодня в хозяйстве на птицеферме возле деревни Изабелино в Островецком районе функционируют девять птичников площадью 10.000 квадратных метров и еще два птичника на 3250 квадратных метров на стороне, в пределах 14 километров. Производится от 120 до 140 тонн мяса в месяц.

Постепенно складывался коллектив. Сейчас на производстве и в системе сбыта в фермерском хозяйстве «Островецкое» работает примерно 150 человек со средней месячной зарплатой около 1000 рублей. Впрочем, на предприятии есть специалисты, зарплата которых намного больше.

Индюшата закупаются в Польше – у них более лояльные цены и хорошее качество. Работают свои цехи убоя, разделки, упаковки.

Сформировался собственный автопарк – шесть грузовиков-рефрижераторов.

Это уже солидное технологичное производство, которое требует постоянного контроля. Именно поэтому минчане Павел Юрмашев и Леонид Новогран проводят здесь, на площадке у деревни Изабелино, всю рабочую неделю, только на выходные возвращаясь в Минск. У них здесь есть все для ночлега.

### Сбыт

Вот с этим было трудно. Потому что рынок мяса индейки в начале двухтысячных годов в Беларуси был не разработан и не развит, никто толком не знал, что это такое. Также никто не знал, чем мясо индейки по качеству отличается от куриного и почему это мясо стоит дороже.

– Мы объясняли: наша фирма предлагает только натуральную, экологически чистую продукцию, очень полезную для здоровья, – рассказывает Леонид Новогран. – Индейки и индюки выращиваются в комфортных условиях, выкармливаются высококачественными натуральными кормами, за ними внимательно и заботливо ухаживают квалифицированные специалисты…

Мы пропагандировали рецепты вкусных и здоровых блюд: суп из индейки с яичной лапшой, суп из индейки с бананами, роллы из индейки и цукини…

Много времени и средств руководители фермерского хозяйства «Островецкое» потратили на рекламу, на создание собственной торговой сети в Беларуси, в основном в Минске. Сегодня имеются 18 точек продажи – частично свои, частично арендованные. В том числе торговые места на рынках (адреса магазинов «Индюшонок» можно найти на сайте предприятия).

Да, эти аргументы хотя и работают, но очень медленно. Многие до сих пор при выборе продуктов питания в первую очередь смотрят на цену. А все остальное уже потом…

Конечно, в результате системной и грамотно организованной работы по маркетингу со временем сбыт наладился.

– Мы развиваемся, – говорит Павел Юрмашев. – Развиваемся настолько, насколько позволяют заработанные деньги. По возможности строим новые птичники, закупаем оборудование.

Не удивительно – времена, когда не имеющие опыта самостоятельной работы белорусские фермеры делали первые шаги, ушли в прошлое. А сегодня, как видим, возникают и развиваются технологичные, хорошо налаженные предприятия – такие, как ФХ «Островецкое». А такое производство не может не приносить результатов.

– Я вижу результат и работаю с удовольствием, – говорит Павел Юрмашев.

### Не стоять в стороне

Хозяйство не стоит в стороне от жизни фермерского сообщества Беларуси. Его руководители понимают важность собственной организации, которая могла бы представительствовать и, если необходимо, защищать. Они участвуют в мероприятиях, которые проводит Гродненская областная ассоциация фермеров. Более того, их часто приглашают на свои мероприятия коллеги – производители мяса индейки из Польши. Там встречи на базе очередного фермерского хозяйства проходят достаточно часто и бывают очень полезными уже хотя бы потому, что происходит обмен опытом.

В Беларуси на базе областной ассоциации фермеров такая встреча пока была только одна. По мнению Леонида Новограна, она оказалась интересной и хотелось бы, чтобы такие встречи продолжались.

**Анатолий ГУЛЯЕВ.**
*Островецкий район.*

АКЦЫІ

### Ці будзе шэсце на Дзяды?

Кансерватыўна-Хрысціянская Партыя – БНФ падала заяўку ў Мінгарвыканкам і Мінскі абльвыканкам на правядзенне традыцыйных мемарыяльных мерапрыемстваў на Дзяды 3 лістапада. Як паведамляюць заяўнікі, плануецца правядзенне шэсця і мітынга ў традыцыйным фармаце. Звычайна ўдзельнікі збіраюцца ля Мінскага гадзіннікавага завода каля станцыі метро «Парк Чалюскінцаў» і са сцягамі, крыжамі і кветкамі ідуць на ўрочышча Курапаты, дзе адбываецца жалобны мітынг.

Летась шэсце на Дзяды ў Мінску прайшло ў 30-ы раз.

ЧУЛІ?

### Пуск першага энергаблока БелАЭС перанесены на студзень

Пра гэта днямі заявіў генеральны дырэктар станцыі **Міхаіл Філімонаў** падчас прэс-тура замежных СМІ на БелАЭС.

«*Мы цяпер знаходзімся на этапе ўзгоднення графіка гатоўнасці да цыркпрамыўкі. Наперадзе ў нас фізпуск, які чакаецца ў раёне студзеня, канкрэтная дата будзе залежаць ад пускавых аперацый. Далей уключэнне ў сетку*», – цытуе Міхаіла Філімонава БЕЛТА.

Адказваючы на пытанне аб тэрмінах завозу ядзернага паліва на першы блок, гендырэктар станцыі сказаў: «*Да канца 2019 года мы плануем выйсці на гэты этап*».

Дырэктар дэпартамента па ядзернай энергетыцы Міністэрства энергетыкі **Васіль Палюховіч** адзначыў: «*Мы не гонімся любой цаной (за тэрмінамі фізпуску). Бяспека ў першую чаргу, і перасокваць праз нейкія этапы ва ўгоду чаканням каго б там ні было мы не можам. Для нас бяспека перш за ўсё*».

Раней, як вядома, меркавалася запусціць АЭС у снежні 2019 года.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

### Бярозаўскі хрусталь ізноў патрапіць у Францыю

Шклозавод «Нёман», які месціцца ў горадзе Бярозаўка Лідскага раёна, аднавіў сёлета супрацоўніцтва з вядомай французскай фірмай «Cristal de Paris», якая займаецца вытворчасцю і рэалізацыяй хрусталю ручной работы.

На заводзе ўжо атрымалі заяўку на пастаўку ваз для садавіны, збаноў і графінаў. Папярэдне быў пройдзены тэст на якасць – вырабы шклозавода «Нёман» цалкам адпавядаюць еўрапейскім стандартам.

Адмысловая для гэтага заказа французскі бок распрацаваў чатыры новыя малюнкі алмазнай грані. Яны былі паспяхова адаптаваны заводчанамі для вырабаў, якія накіруюцца ў Францыю.

Першая партыя хрусталю з Бярозаўкі павінна быць адгружана ўжо ў гэтым месяцы.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ФОТАФАКТ

### У Мінску з'явілася радыёшпакоўня



Незвычайная хатка для птушак была заўважана ў беларускай сталіцы. Адну з іх невядомы канструктар-арыгінал зрабіў… са старога радыёпрыёмніка.

«*Цікава: жылі тут птушкі альбо ім больш падабаюцца звычайныя драўляныя дамкі?*» – задаецца пытаннем у «Фэйсбуку» праваабаронца Алена Лапцёнак. – *Паназірэю за гэтым наступнай вясной*».

**Віктар ШПАК.**

